жным. У цяперашняй міжнароднай сытуацыі аб нашай праблеме і аб усім, што ў сувязі з гэтым, зацікаўленьня і ўвагі досыць.

А што практычна зроблена дагэтуль? — Надзвычай мала, каб над гэтым шырэй спыняцца. Тыя нялічныя выданьні ў замежных мовах аб Беларусах і Беларусі зусім нязначныя, калі-б мы захацелі бачыць у іх плод нашае інфармацыі й прапаганды. Апрача таго, бадай няведама, каб нешта выдалі ў нямецкай, француcкай, гішпанскай ці нейкай іншай мове. Трэба зазначыць, што зусім няма патрэбы за кажным разам выдаваць цэлую кніжку. Для нашае прапаганды было-б даволі, каб больш-менш рэгулярна выдаваць нейкія бюлетэні. Мы не павінны забыцца й выданьняў у нямецкай мове, бо раней ці пазьней трэба лічыцца з тым, што нямецкі народ будзе выдатным фактарам у змаганьні супраць экспансіі бальшавізму.

Побач із рознымі выданьнямі ў выглядзе кніжак, брашураў і пад., трэба асаблівую ўвагу узяць на беларускі друк, асабліва на наш выгнанскі друк. Нашыя працаўнікі друку, хоць яны наагул і належаць да найактыўнейшых і нацыянальна найсьведамейшых працаўнікоў на выгнаньні, аднак дагэтуль ня выявілі належнае ўвагі да інфармацыйнае й прапагандавае працы. Адно ясна, што ад нашых выдаўцоў мы можам чакаць у гэтай галіне больш працы. Ці-ж мы не маглі-б выдаваць ад часу да часу бюлетэні ў ангельскай, францускай, нямецкай ці нейкай іншай мовах? — Зразумела, гэтыя выданьні мусілі-б быць пастаўленыя на «эўрапейскую нагу». Але гэта не праблема, разьвязаньне яе гарантуе склад нашае эміграцыі. Здаецца, і ў серадкох ня было-б запыну. І калі-б гэтыя выданьні мы пасьля пашыралі-б у некаторых краёх ці, прыкладам, выслалі-б іх усім сябрам амэрыканскага кангрэсу, міністрам урадаў Ангельшчыны й Францыі, усім некамуністычным дэпутатам парлямэнтаў і розным грамадзкім арганізацыям, ці-ж гэта ня была-б прапаганда беларускае справы, ці гэта ня было-б змаганьне за волю, права й незалежнасьць нашае Бацькаўшчыны? — Гэтае самае можна сказаць і аб нашых выдавецтвах. Было-б вельмі карысна й навет канечна, каб яны выдавалі нешта і ў чужых мовах. Мелі-б значаньне й выданьні нашае літаратурнае працы, якія навет ужо ляжаць гатовымі да друку. Прынцыпова аб гэтым навет гаварыць бадай ці трэба.

Трэба памятаць і яшчэ адзін вялікі серадок прапаганды — радыё. Важна было-б ведаць, ці недзе спрабавалі ўмаўляцца з дырэкцыямі радыёфонаў аб зарганізаваньні беларускіх перадачаў? Некаторыя іншыя народы гэтага дасягнулі. Мастацкія перадачы адначасна з кароткімі зацемкамі аб Беларусі й Беларусах трэба ўважаць за безадкладнае заданьне нашых дзён, і гэтага мусім дасягнуць.

Затым — замежны друк. Дагэтуль у газэтах заходніх дэмакратыяў надзвычай рэдка сустракаюцца весткі аб Беларусі, аб нашай праблеме і аб усім, што ў сувязі з гэтым. Аб гэтым было ўжо ці раз гаворана, але практычна ніякіх вынікаў няма. Трэба спытацца, ці гэткае палажэньне, наколькі яно залежыць ад нас самых, можам дапусьціць і надалей? — Гэты абавязак кладзецца на нашыя собскія плечы, і мы яго мусім хутка й дакладна разьвязаць, тым больш, што асаблівых выдаткаў гэта не патрабуе.

Гэтыя прыклады паказваюць, што працы мы маем бязьмежна шмат. Патрэбная сувязь і з родным краем, каб у братоў пад бальшавіцкім панаваньнем ня зьнікала вера ў дзень волі і каб ім стала сілы, вытрываласьці й адпору.

Вось нашыя безадкладныя заданьні й абавязкі сяньня, бо гэтага ня зробіць за нас ніхто іншы, і ня людзі карыта з нашага собскага асяродзьдзя, якія толькі былі спрытнымі панапіхаць кішэні кавай і за гэтую каву панацягаць у залежнасьць ад сябе розных людзей зь нямоцнай яшчэ (ці хісткай наагул) асабістай паставай.

Дык-жа бярэмся за працу пільна й заўзята!

**Паддубіч.**

### ЭЎРАПЕЙСКАЯ ВУНІЯ СТВОРАНАЯ

**Брусэль (ДЭНА-Рэйтар).** Міністры замежных справаў Вялікабрытаніі, Францыі, Бэльгіі, Галяндыі й Люксэмбургу падпісалі пяцьдзесятгадовы пакт пяцёх гаспадарстваў заходня-эўрапейскае вуніі. Пакт мае ўступ і 10 артыкулаў ды прадугледжвае, апрача эканамічнага супрацоўніцтва, узаемнае вайсковае падтрыманьне ў межах 51-га артыкулу Хартыі Задзіночаных Нацыяў. Дзеля рады ўва ўсіх пытаньнях, якія зьмяшчае пакт, ствараецца сталы кансультацыйны камітэт.

**Лёндан (ДЭНА-Рэйтар).** Брытанскі прэм'ер-міністар Этлі ў парлямэньце зазначыў, што падпісаны ў Брусэлі пакт пяцёх не скіраваны супраць якога-небудзь іншага краю. Чэрчыль, як лідэр апазыцыі. таксама прывітаў пакт.

### САВЕТЫ БРАЗГАЮЦЬ ДЗЬВЯРЫМА

**Бэрлін (ДЭНА).** Савецкая дэлегацыя дэманстрацыйна й зусім неспадзявана для іншых дэлегацыяў пакінула 82-е паседжаньне Саюзнае Кантрольнае Рады, пасьля таго, як праведзеныя перад гэтым у войстрых словах спрэчкі пра лёнданскую нараду трох і праскі мэмарандум міністраў замежных справаў Польшчы, Югаславіі й Чэхаславаччыны не давялі да ніякага выніку. Маршал Сакалоўскі ў даўгой заяве абвінавачваў вайсковых губэрнатараў заходніх зонаў у «пашкоджаньні й разбурэньні» ўмовы чатырох дзяржаваў. Тым самым, сказаў ён, Кантрольная Рада, як урадавы орган, ня йснуе больш.

# Рэха Сакавіка

Падаём найважнейшыя з надасланых нам беспасярэдня й нашымі нацыянальнымі арганізацыямі сакавіковых прывітаньняў.

### БЕЛАРУСКАМУ НАЦЫЯНАЛЬНАМУ ЦЭНТРУ (БНЦ)

Беларускі Народ сьвяткуе сяньня трыццацігодзьдзе аднаўленьня Самастойнае Беларускае Дзяржавы, Беларускае Народнае Рэспублікі, у зацяжным змаганьні з бальшавіцкаю тыраніяй.

У гэтыя ўрачыстыя ўгодкі, калі зьдзеіліся лятуценьні найлепшых сыноў і дачок Беларускага Народу, Камітэт Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН) шчыра-сяброўска вітае Беларускі народ у ягоным гэраічным змаганьні за свабоду, за Самастойную — ад нікога незалежную — Беларускую Дзяржаву на ўсёй беларускай зямлі й складае Беларускаму Народу найсардэчнейшыя зычэньні якнайбарджэйшага дасягненьня ягонае мэты!

І калі сяньня адно ў падзямельлях змаганьня можа Беларускі Народ сьвяткаваць Вялікія Ўгодкі, калі ў гэты дзень беларускія рэвалюцыянэры-паўстанцы сваёй крывёю асьвячваюць родныя баёвыя сьцягі, — мы, паняволеныя таксама, як і Беларускі Народ, расейска-бальшавіцкім таталітарызмам народы заяўляем нашую нязломную рэвалюцыйную салідарнасьць зь неспакораным, волялюбным Беларускім Народам у ягоным змаганьні за волю.

Мы стаём згуртавана за Беларускую Самастойную Дзяржаву, гаспадарства народу, што ніколі ня склаў і не складзець сваіх сьцягоў, не зважаючы на жахлівыя ахвяры крыві, якія панёс Беларускі Народ у сваім, што трывае стагодзьдзі, змаганьні супраць расейскага імпэрыялізму — за распадзел расейскае імпэрыі на нацыянальныя гаспадарствы ўсіх народаў.

Аддаючы пашану гэраічнаму змаганьню Беларускага Народу, асабліва ягоных паўстанскіх аддзелаў, рэвалюцыйнага авангарду, — мы клічам у Вялікія Ўгодкі Беларусі:

Няхай жыве харобры Беларускі Народ!

Няхай жыве Самастойная — ад нікога незалежная — Беларуская Нацыянальная Дзяржава!

Няхай жывуць гэраічныя беларускія рэвалюцыянэры-паўстанцы!

Няхай жыве супольны фронт паняволеных бальшавізмам і расейскім імпэрыялізмам народаў!

25 сакавіка 1948 г.

**Старшыня**
**Камітэту Антыбальшавіцкага Блёку Народаў (АБН)**

### ПРЭЗЫДЫЮМУ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЦЭНТРУ (БНЦ)

З нагоды трыццатых угодак абвешчаньня Незалежнае Беларускае Дзяржавы, Замежнае Прадстаўніцтва Украінскае Галоўнае Вызвольнае Рады перасылае найлепшыя пажаданьні ўсяму Беларускаму Народу й ягонаму Праваднірству. Мы шчыра вітаем гэраічны Беларускі Народ, што трыццаць год таму ўзьняў сьвятары сьцяг свабоды й незалежнасьці ды вытрываў пры ім да сяньня, у бязупынным змаганьні супраць найбольшага ворага чалавецтва — маскоўска-бальшавіцкага імпэрыялізму. Мы асабліва сардэчна вітаем і зычым удачаў тым сыном і дочкам Беларускага Народу, што ў сучасным мамэнце стаяць у супольных радох змаганьня із змагарамі іншых народаў Усходу ды імкнуцца да ўжыцьцёўленьня супольных нацыянальных ідэалаў паняволеных народаў.

Адначасна, у дні Вашага нацыянальнага сьвята мы лучымся думкамі з Вамі й з усім Вашым народам ды замацоўваем у сабе глыбокую веру ў неразлучнае сяброўства нашых народаў, што, прайшоўшы неаднократна супольнымі шляхамі сваю велічную гісторычную мінуўшчыну, сяньня змагаюцца ў вадным фронце супраць супольнага ворага, а ў недалёкай будучыні зажывуць, як добрыя суседзі, у собскіх незалежных дзяржавах, пабудаваных на іхных этнаграфічных тэрыторыях. Мы выказваем нашае глыбокае перакананьне ў тым, што адно нашымі супольнымі сіламі й сіламі іншых паняволеных народаў можа быць зьнішчаны маскоўска-бальшавіцкі імпэрыялізм і адначасна мы ведаем, што адно пры сьціслым супрацоўніцтве абодвух нашых народаў, у верным сяброўсьцьве іхных незалежных самастойных дзяржаваў можа быць пастаўленая пяважная запона ўсякаму імпэрыялізму на ўсходзе й забясьпечаны трывалы мір. Таму ў дні Вашага Вялікага Сьвята мы клічам:

Няхай жыве вечнае сяброўства й хаўрус беларускага і ўкраінскага народаў у іхных незалежных дзяржавах!

Няхай мацнее супольны фронт нашага змаганьня супраць супольнага ворага й за ўжыцьцёўленьне супольных ідэалаў!

Няхай жыве Беларускі Народ!

**Прэзыдыюм Замежнага Прадстаўніцтва УГВР.**

### РЭДАКЦЫІ ГАЗЭТЫ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Глыбакапаважаны сп. Рэдактар!

Дазвольце мне, ад імя грузінскае калёніі, з нагоды спаўненьня трыццацігодзьдзя абвешчаньня незалежнасьці Беларускага Гаспадарства выказаць Беларускаму Народу свае віншаваньні й зычэньні ўдачы ў гэраічным змаганьні за сваю нацыянальную незалежнасьць супраць маскоўскага імпэрыялізму.

Няхай жыве вольная, незалежная дэмакратычная Беларусь!

Няхай жыве цесны хаўрус усіх паняволеных і прыгнечаных бальшавіцкай тыраніяй народаў!

З глыбокай пашанай,
**Старшыня Грузінскае Калёніі**
**А. Кордзайя.**

Мюнхэн, 24. 3. 48.

### БЕЛАРУСКАМУ (КРЫВІЦКАМУ) ЦЭНТРАЛЬНАМУ ДАПАМАГОВАМУ КАМІТЭТУ У НЯМЕЧЧЫНЕ

25-га сакавіка 1948 г. мінае 30 год з дня адраджэньня дзяржаўнасьці Крывіцкага Народу. У дзень гэтых гордых і слаўных угодкаў мы — **Украінцы, сябры Саюзу Гетманцаў-Дзяржаўнікаў,** сардэчна вітаем Крывіцкі народ, што сяньня, нароўні зь іншымі народамі, гэтак жорстка паняволенымі бальшавізіяй, змагаецца за сваё месца на зямлі, за сваю Незалежную Дзяржаву.

Вы, Крывічы, як і мы, Украінцы, ніколі ня былі захопнікамі чужых земляў, ніколі не гнялі іншых народаў. Ня хочам мы і ў будучыні быць захопнікамі.

Мы хочам жыць вольна на вольнай ад гвалту й тыраніі зямлі, сярод вольных народаў.

У гісторыі Крывіцкага і Ўкраінскага Народаў ёсьць шмат супольнага. Даўгія гады нашыя краі вынішчаў царат. Блізу што разам із Вашым Дзяржаўным Адраджэньнем сталася 29-га красавіка 1918 г. Украінскае Дзяржаўнае Адраджэньне. Блізу што аднача сна тыраністычная бальшавізія паняволіла нашыя народы й вынішчае нашую дзяржаўную культуру.

Народ наш ня ўпаў перад захопнікам. Мы адно выйшлі зь няроўных загрудак. Перабудуем нашыя рады, дамэтна расставім нашыя аванпосты й рэзэрвы, і з дапамогаю цывілізаванага сьвету ЭЎРОПЫ Й АМЭРЫКІ пойдзем на канчальнае вызваленьне нашых земляў.

Чэсьць і Слава Крывіцкаму Народу!

ШЧАСЬЦІ ВАМ БОЖА!

З глыбокаю й сардэчнаю пашанаю да Вас,
праф. **Андрый Маскаленка.**

24 сакавіка 1948 г.

### БЕЛАРУСКАМУ ЦЭНТРАЛЬНАМУ КАМІТЭТУ

Да трыццатых угодкаў абвешчаньня Беларускае Народнае Рэспублікі просім прыняць выказаньні найсардэчных сымпатыяў ад казацкага народу.

На працягу трыццацёх год беларускі народ бязупынна змагаецца за сваю свабоду й незалежнасьць, за сваё неадымнае права на собскае нацыянальнае жыцьцё. У гэтым гэраічным змаганьні ён панёс вялізарныя страты, якія налічаюцца міліёнамі лепшых ягоных сыноў. Аднак, беларускі народ ні на часіну не адмаўляўся й не адмаўляецца ад свайго прыроднага права, змагаючыся цяпер у супольным фронце ўсіх паняволеных і прыгнечаных народаў цэнтральнае і ўсходняе Эўропы.

Ізь цьвёрдай і непахіснай верай у трыумф сьвятарнага змаганьня беларускага народу зычым ад усяе душы поўнае ўдачы ў ягонай вызвольнай працы, што вядзецца ў цесным супрацаўніцтве зь іншымі народамі, якія сталіся ахвярамі бальшавіцкага гвалту.

**Казацкае Народнае Прадстаўніцтва.**

### ПРЭСА ДП ДА САКАВІКА

Дасюль паводля нашых дадзеных на трыццацігодзьдзе абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адгукнуліся наступныя часапісы ДП: «Українська Трибуна», «Неділя» — украінскія й польская «Kroнiка». Асабліва цёпла адгукнулася «Українська Трибуна», якая, побач з артыкулам Я. Каранеўскага, надасланым зь беларускіх колаў, зьмясьціла вялікі й надзвычай цёплы артыкул «Синьоока сестра України», а таксама ведамы верш У. Дубоўкі «О Беларусь, мая шыпшына» ў перакладзе Яр. Славутыча.

### ПАДЗЯКІ

**Мы атрымалі ад нашых нацыянальна-палітычных і дапамаговых арганізацыяў — Беларускага Нацыянальнага Цэнтру (БНЦ), Цэнтральнага Беларускага Дапамаговага Камітэту ў Нямеччыне й Акруговага Камітэту на Амэрыканскую Зону — просьбы перадаць праз нашую газэту шчырую падзяку ўсім тым арганізацыям і асобам, што прывіталі гэтыя арганізацыі ў дзень трыццатых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.**

**Із свайго боку, рэдакцыя «Бацькаўшчыны» таксама шчыра дзякуе ўсім тым, хто прывітаў яе з сакавіковым сьвятам, асабліва-ж: Грузінскай калёніі ў Мюнхене, Згуртаваньню Беларусаў у Вялікабрытаніі, Генэральнай Радзе Саюзу Беларусаў у Бэльгіі, Беларускаму Дапамаговаму Камітэту на Ангельскую Зону, скаўцкаму штабу штандару «Баварыя», Цэнтралі Беларускіх Студэнцкіх Арганізацыяў на Чужыне, сп. сп. Усеваладу Боеву, А. Ружанцу-Ружанцову, Сяргею Ходу й інш.**

### ШЧЫРАЕ БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯКУЙ

Беларускі Лягер у Остэргофэне ў дзень нашага найвялікшага нацыянальнага Сьвята 25-га Сакавіка атрымаў цэлы рад прывітаньняў ад наступных беларускіх установаў і асобаў: ад Беларускага Дапамаговага Камітэту на Ангельскую зону Нямеччыны, ад Беларускага Дапамаговага Камітэту на Амэрыканскую зону Нямеччыны, ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, ад Каманданта Беларускага Лягеру ў Міхэльсдорфе сп. Б. Шчорса, ад Каманданта Беларускага Лягеру ў Віндышбэргэрдорфе сп. М. Скабея, ад Кіраўніка беларускае нацыянальнае групы ў Шляйсгайме сп. інж. М. Гарошкі, ад Старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Мітэнвальдзе сп. Я. Грушчыка, ад Кіраўніка Беларускіх Скаўтаў на чужыне сп. В. Панцэвіча, ад сп. А. Махноўскага.

Усім вышэй пералічаным установам і асобам ад імя Беларускага Лягеру ў Остэргофэне на гэтым месцы складаю шчырае беларускае дзякуй.

**Камандант Беларускага Лягеру ў Остэргофэне.**

